МАСАВА-ПАЛІТЫЧНЫ ШТОТЫДНЁВІК

# Газета Слонімская

Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.

**№9 (247) 28 ЛЮТАГА — 6 САКАВІКА 2002Г. НАКЛАД 12.000 ЭКЗ. КОШТ 220 РУБ.**

# СВЯТА САПРАЎДНЫХ МУЖЧЫН

**Малодшы сяржант Аляксандр Лапуноў з 3-га танкавага батальёна 11 механізаванай брыгады хаця і не стаў пераможцам спаборніцтваў гіравікоў, што былі прымеркаваны да Дня абаронцы Айчыны, але волю да перамогі праявіў. А калі ўсе нашы вайскоўцы такія ж волаты, то справа абароны Радзімы — у надзейных руках.**

**Аб святкаванні 23 лютага ў Слоніме чытайце на 12-й старонцы, а спартыўныя навіны — традыцыйна на 15-й.**

НАВІНЫ

### РЭАРГАНІЗАВАЛІ СУД

**Суд Слонімскага раёна і горада Слоніма па ўказу прэзідэнта рэарганізаваны ў суд Слонімскага раёна.**

Гэтае аб'яднанне зроблена ў мэтах паляпшэння арганізацыі работы, правядзення судовай сістэмы ў адпаведнасць з адміністрацыйна-тэрытарыяльным дзяленнем.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

### "ТВАЕ ЛЮДЗІ, СЛОНІМШЧЫНА!"

**Пад такой назвай 20 і 21 лютага ў СШ №2 прайшло адно з шэрагу мерапрыемстваў, прымеркаваных да 750-годдзя ўтварэння Слоніма.**

На гэты раз у вучняў 3 - 4 класаў другой школы гасцілі навучэнцы студыі выяўленчага мастацтва мясцовага Цэнтра дзіцяча-юнацкай творчасці. Прыцягнула ўвагу гаспадароў і гасцей школы выстава работ юнай мастачкі Марыі Уласавай, вучаніцы слонімскага мастака-педагога Яўгена Іванова. У мерапрыемстве прынялі ўдзел і навучэнкі Слонімскага духоўнага вучылішча, якія вывучаюць мастацтва іконапісу.

Як паведаміла карэспандэнту "ГС" намеснік дырэктара СШ №2 Ірына Жалязоўская, усе гэтыя мерапрыемствы былі спланаваны яшчэ ў пачатку навучальнага года. Ірына Яўгеньеўна адзначыла таксама, што ў іх арганізацыі і правядзенні самы непасрэдны ўдзел прыняла старэйшы педагог школы Алена Лябецкая.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

### ДА ЎВАГІ АМАТАРАЎ ПАЭЗІІ!

**У сераду, 27 лютага, у 15 гадзін у Слонімскай цэнтральнай раённай бібліятэцы адбудзецца сустрэча з беларускім паэтам Славамірам Адамовічам і спявачкай Вікторыяй Ільінскай.**

Падчас сустрэчы слонімскія чытачы змогуць набыць у сталічных гасцей зборнік выбранай лірыкі Славаміра Адамовіча "Плавільшчыкі расы" і аўдыёкасеты з песнямі.

**М.К.**

Курсы обмена валют в г.Слониме по состоянию на 26 февраля 2002г.

| | Покупка | Продажа |
|---|---|---|
| **"Приорбанк"** | | |
| 1 USD | 1665 | 1710 |
| 1 EURO | 1400 | 1490 |
| 1 RUR | 53 | 55 |
| **"Беларусбанк"** | Покупка | Продажа |
| 1 USD | 1660 | 1690 |
| 1 EURO | 1435 | 1480 |
| 1 RUR | 52,5 | 55 |
| **ОА "Белпромстройбанк"** | Покупка | Продажа |
| 1 USD | 1660 | 1690 |
| 1 EURO | 1430 | 1470 |
| 1 RUR | 53 | 55 |
| **"Белагропромбанк"** | Покупка | Продажа |
| 1 USD | 1660 | 1695 |
| 1 EURO | 1440 | 1470 |
| 1 RUR | 52 | 55 |
| **Нацбанк РБ** | | |
| 1 EURO | 1456,63 | |

Цены на бензин в г.Слониме по состоянию на 26 февраля 2002г.

| | |
|---|---|
| **Слонимнефтепродукт** | |
| Автозаправочные: станция по ул.Брестская, станция Нефтебаза, станция Новая Стража: | |
| А-76 | 467 р. за 1 литр |
| АИ-92 | 571 р. за 1 литр |
| АИ-95 | 654 р. за 1 литр |
| ДТ | 451 р. за 1 литр |
| **КОММЕРЧЕСКАЯ АВТОЗАПРАВОЧНАЯ** | |
| Грибово | |
| А-76 | 460 р. за 1 литр |
| АИ-92 | 565 р. за 1 литр |

НАВІНЫ

# КАДРАВЫЯ ПЕРАСТАНОЎКІ Ў СЛОНІМЕ

**Новы старшыня Слонімскага райвыканкама Мечыслаў Касцюк сваю працоўную дзейнасць на новай пасадзе пачаў з кадравых перастановак.**

Найперш усіх слонімцаў цікавіць, якую пасаду атрымае былы старшыня гарвыканкама Алег Лакцюшын. "ГС" раней пісала, што Алег Мікалаевіч плануе ўзначаліць Слонімскі хлебазавод, альбо застацца ў райвыканкаме адным з намеснікаў. Як стала вядома карэспандэнту "Газеты Слонімскай", 25 лютага Алег Лакцюшын і дырэктар хлебазавода Мікалай Ёрш наведалі "Гроднахлебпрам". Першы з іх у Гродне заключыў кантракт. Гэта значыць, што Алег Мікалаевіч Лакцюшын ужо зацверджаны дырэктарам Слонімскага хлебазавода, а з Мікалаем Рыгоравічам Яршом кантракт скасавалі. Нагадаем, што Мікалаю Яршу год назад споўнілася 60 гадоў. Праўда, працаваць на хлебазаводзе ён усё ж застанецца ў якасці намесніка дырэктара па маркетынгу і гандлю.

Што датычыць Анатоля Бяляніна, які працаваў намеснікам старшыні гарвыканкама, дык ён узначаліць Слонімскае прафтэхвучылішча № 129. Яшчэ адзін намеснік старшыні гарвыканкама Аляксандр Конан разлічвае заняць пасаду галоўнага інжынера ўпраўлення "Слонімміжрайгаз". А ўпраўляючая справамі гарвыканкама Лідзія Навасельцава, відаць, стане начальнікам мясцовага вузла паштовай сувязі. У райвыканкаме засталіся працаваць былыя намеснікі старшыні райвыканкама Іван Бабяк і Валерый Гузень. Галіна Шмялёва прызначана загадчыцай Слонімскага раённага аддзела адукацыі, а былы загадчык гарадскога аддзела адукацыі Аркадзь Бумагін — яе намеснікам.

Кадравыя перастаноўкі ў Слоніме толькі пачаліся, таму пра новыя прызначэнні газета напіша пазней.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

СОБЫТИЕ

# Строили, строили и... ПОСТРОИЛИ

**Десять лет понадобилось Слониму, чтобы сообща закончить строительство легкоатлетического манежа. В этом событии можно найти много символичного для нашего города.**

Взять хотя бы тот факт, что манеж — пока что единственный объект, введенный в эксплуатацию, как и было обещано властями, в год 750-летия Слонима.

Но самое важное, безусловно, то, что ребята наконец-то получили возможность заниматься легкой атлетикой в нормальных условиях без оглядки на погоду. Теперь остается ждать высоких результатов слонимских легкоатлетов. С таким манежем этого надо даже требовать от тренеров спортивной школы №3, которой не так давно было присвоено звание специализированной школы олимпийского резерва.

И пусть открытие манежа — не открытие ледового дворца, но не обошло вниманием это событие областное и республиканское спортивное начальство, гродненское телевидение, а уж местной власти сам Бог велел прийти на праздник...

Впрочем, подробнее об открытии легкоатлетического манежа, которое состоялось 26 февраля, и о прошедших в нем первых — республиканских — соревнованиях "ГС" расскажет в своем следующем номере.

**Валерий КОВАЛЕНКО**

Фота Віталя ГІЛЯ

*Первые соревнования в новом манеже*



Фота Віталя ГІЛЯ

*Манеж открывали: последний предгорисполкома Олег Лактюшин, ксёндз Витольд Жельветра и Сергей Рагозик*

# "ДИВО ДИВНОЕ" В РДК

**На базе районного Дома культуры с 28 февраля в Слониме открывается новый клуб для женщин (напомним, что в РДК уже действует женский клуб "Надежда").**

Корреспондент "ГС" встретилась с одной из инициаторов создания этого клуба — руководителем театра моды "Этуаль" — Мадлен.

**— Что побудило Вас создать в Слониме еще один женский клуб?**

— Вообще-то, эта идея давно вынашивалась. В Слониме много интересных женщин, у которых, как мне кажется, есть потребность объединиться. И еще у нас в городе работают консультанты косметической компании Mary Kay. С их помощью мы и решили создать дамский клуб. Его председателем будет представитель компании Mary Kay Алина Ясюкевич. Она, так сказать, главный организатор этого проекта. Сплотившись на базе Дома культуры, у нас будет возможность проводить различные мероприятия, посвященные женщинам и для женщин.



Фота Віталя ГІЛЯ

*Руководитель театра моды "Этуаль" Мадлен*

**— А название клубу уже придумали?**

— Да, он будет называться "Диво дивное".

**— Почему именно так?**

— Как нам кажется, это название как нельзя лучше подходит образу женщины.

**— Чем клуб будет заниматься?**

— Мы будем помогать женщинам решать их проблемы. Будем много общаться, рассказывать о том, что и как нужно делать, чтобы быть красивыми. Планируем рассказывать женщинам, как следует правильно ухаживать за собой. Мы хотим делать праздники для женщин, гостевые вечера.

**— Кто может стать членом клуба "Диво дивное"? Надо ли будет платить за это членские взносы?**

— Женщины всех возрастов смогут совершенно бесплатно прийти к нам.

**Ольга ШИНКЕВИЧ**

НАВІНЫ

### "ГРЫМАТА" ВЫПУСЦІЛА КАСЕТУ




**Лаўрэат міжнародных конкурсаў народны ансамбль народнай музыкі і песні "Грымата", які існуе пры Слонімскім раённым доме культуры, выпусціў аўдыёкасету і дыск са сваімі песнямі.**

— Грошы на запіс песень і выпуск касеты і дыска, — сказала карэспандэнту "ГС" мастацкі кіраўнік ансамбля "Грымата" Валянціна Пятрашка,— мы зарабілі ў мінулым годзе на гастролях па Беласточчыне. На касеце запісана 21 беларуская народная песня. Сярод іх — "Касіў Ясь канюшыну", "Ой, рэчанька-рэчанька", "Ой, там каля рэчкі", "Два дубкі" і іншыя. Набыць касету песень "Грыматы" можна будзе на канцэртах ансамбля, якія плануецца наладзіць у Слонімскім РДК у красавіку-траўні для нашых землякоў.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

### ПЕРАМАГЛА "НОВАЯ ЭРА"

**У Жыровіцкім аграрна-тэхнічным каледжы адбыўся конкурс клуба вясёлых і знаходлівых.**

У ім прынялі ўдзел 3 каманды гэтай навучальнай установы: "Спец"ы" (выкладчыкаў), "Артыст-майстар" (майстроў вытворчага навучання) і "Новая эра" (навучэнцаў).

Цікавей і весялей за ўсіх выступіла каманда "Новая эра", якая заняла першае месца. Ігракі гэтай каманды атрымалі грашовую прэмію ў памеры 360 рублёў і падарункі. На другім месцы былі выкладчыкі, а на трэцім — майстры.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

ЗДАРЭННІ

### РТУЦЬ У МІСЦЫ

**Дзіўныя шарыкі выявіла пасля абеду на дне міскі, з якой толькі што ела грэчневую кашу, адна гаспадыня з Дзятлава.**

У той дзень яны з мужам запрасілі да сябе ў госці сяброў. Пасля таго, як кампанія паабедала, жанчына і звярнула ўвагу на шарыкі невядомай вадкасці. Супрацоўнікі Слонімскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, куды талерку адправілі на экспертызу, устанавілі, што гэта была ртуць. Але ў пакеце з грэчневай крупой, якую гаспадыня купіла на рынку ў Гродне, ртуці не аказалася.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

### СНАЧАЛА СГОРЕЛ САРАЙ, ЧЕРЕЗ ДЕНЬ - ДОМ

**На прошлой неделе, во вторник, 19 февраля, в Слониме загорелся сарай по улице Коссовский тракт.**

Причиной пожара стала самодельная сушилка древесины, которую соорудила в сарае 63-летняя жительница города. А на следующий день, в среду, на Полевой улице горел жилой дом. Человеческих жертв нет. Специалисты устанавливают причину пожара.

**Ольга ШИНКЕВИЧ**

### АМАЛЬ СУТКІ БЕЗ ВАДЫ

**Менавіта столькі былі адключаны ад водазабеспячэння тры дамы (№№ 14, 20, 26) па вуліцы Яршова. Высветлілася, што ў падвале дома №20 увечары 20 лютага прарвала трубу.**

Трэба адзначыць, што аварыйная служба водаканала адрэагавала даволі хутка і ўжо на наступны дзень рамонтнікі прарыў ліквідавалі.

**Валерый КАВАЛЕНКА**

РЭПАРТАЖ

# КВЕТКІ КРУГЛЫ ГОД


Фота Віталя ГІЛЯ
Чаранкаванне гваздзікоў


Фота Віталя ГІЛЯ
Зінаіда Шапавал здымае бакавыя пабегі з ружаў


Фота Віталя ГІЛЯ
Прывіўка чайна-гібрыдных руж (на першым плане — Уладзімір Волкаў)

**Калектыў абласнога ўнітарнага прадпрыемства спецсаўгас "Рышчыцы", што знаходзіцца ў Слоніме, у мінулым 2001 годзе выгадаваў і рэалізаваў больш за мільён кветак. З іх 750 тысяч — ружы.**

Калі параўноўваць, то ў 2000 годзе агульная колькасць прадукцыі склала 800 тысяч, а самага ходавага тавару, ружаў, было выгадавана і прададзена 500 тысяч штук. Сярод васьмі прадпрыемстваў падобнага профілю, якія зараз існуюць на Беларусі, спецсаўгас "Рышчыцы" з'яўляецца вядучай гаспадаркай.

Нядаўна карэспандэнты "ГС" пабывалі ў гасцях у вытворцаў кветак. Сустрэча пачалася са знаёмства і гутаркі з дырэктарам спецсаўгаса Валерыем Надудзікам, які ўзначальвае гаспадарку апошнія сем гадоў. У пачатку гутаркі Валерый Гаўрылавіч адзначыў той факт, што ў 1944 годзе, як толькі Слонімшчына была вызвалена ад фашыстаў, урад Беларусі прыняў пастанову аб утварэнні ў Слоніме ўчастка па азеляненню і добраўпарадкаванню горада. З таго часу і пачалася гісторыя прадпрыемства. Па словах дырэктара, пасля розных рэарганізацый, з ранейшых 22 спецсаўгасаў цяпер у рэспубліцы засталося толькі восем, і яны ледзь зводзяць канцы з канцамі. А спецсаўгас "Рышчыцы" жыве адносна нядрэнна і нават развіваецца. Для гэтага карэнным чынам прыйшлося змяняць тэхналогію вытворчасці. Калі раней 70% цяплічных пасадак займалі гваздзікі, і, адпаведна, па 15% заставалася на ружы і іншыя кветкі, то зараз — усё наадварот. Бо на сённяшні дзень адзінай рэнтабельнай культурай з'яўляецца ружа. А каб дабіцца станоўчых вынікаў, у 1998 годзе былі заведзены новыя гатункі гэтых кветак. Так, для прыкладу, з 20 кустоў найбольш перспектыўнага гатунку ружы Чорная Магія, завезенага з Захаду, на сённяшні дзень ужо выгадавана 40 тысяч кустоў. За гэтым стаяць гады крапатлівай працы калектыву. Затое цяпер гаспадарка ў выйгрышы. Але не толькі пра кветкі дбае кіраўнік прадпрыемства. Як паведаміў Валерый Гаўрылавіч, ён асабіста падымаў пытанне пра азеляненне нашага горада на абласной калегіі ўпраўлення жыллёва-камунальнай гаспадаркі ў прысутнасці намесніка старшынь Слонімскага гар- і райвыканкамаў. Бо ў Слоніме за апошнія чатыры гады не садзяць на вуліцах дрэвы. У спецсаўгас жа нядаўна завезены 150 дрэўцаў туі Смаракт. Зачаранкована іх на сённяшні дзень 7 тысяч штук. Такім чынам, гэта новая фармацыя вечназялёнай перамідальнай туі ўжо праз два гады можа ўпрыгожыць слонімскія вуліцы і падворкі жыхароў горада, калі толькі мясцовыя ўлады будуць у гэтым зацікаўлены і пойдуць насустрач спецсаўгасу. На пытанне, што сёння найбольш хвалюе кіраўніка прадпрыемства, Валерый Надудзік шчыра прызнаўся: "Грошы." І патлумачыў, што за 7 гадоў, пакуль ён працуе дырэктарам, гаспадарка павялічыла выпуск прадукцыі ў 8 разоў. Але гэта, на жаль, па многіх прычынах не дало спадзяваных прыбыткаў. Таму фінансы — гэта і клопат, і часта галаўны боль кіраўніка. І нават перспектыўныя гатункі кветак прадпрыемства не можа купіць у прыватніка за безнаяўны разлік. Шмат і іншых праблем. З кабінета мы накіраваліся на вытворчасць ці, дакладней, у цяпліцы, дзе мелі магчымасць назіраць увесь тэхналагічны працэс вырошчвання кветак — ад пасадкі да іх зразання.

Сёння ў спецсаўгасе "Рышчыцы" працуюць 120 чалавек. Большасць з іх занята ў кветкаводстве, і невялікая колькасць — у дапаможных службах. Сярэдні заробак тут складае 110 тысяч рублёў у месяц. Акрамя таго, прадпрыемства мае 105 га ворных зямель, на якіх штогод работнікі садзяць па 10 сотак бульбы, астатняя плошча засейваецца збожжавымі. У выніку, кожную восень працаўнікі гаспадаркі могуць купіць па сабекошту па 300 кг зерня. І такі клопат кіраўніцтва пра сваіх работнікаў па сённяшнім часе зусім не лішні.

Паказаўшы сваю гаспадарку, Валерый Надудзік падвёз карэспандэнтаў "ГС" да дома сланімчанкі Алы Сопікавай, каб паказаць, як на падворку, проста са снегу, растуць вечназялёныя туі. У свой час гаспадыня сядзібы падаравала спецсаўгасу 150 саджанцаў гэтага прыгожага дрэва.

На развітанне, напярэдадні жаночага свята, Валерый Гаўрылавіч папрасіў праз газету нагадаць слонімскім мужчынам, што кветкі спецсаўгаса — гэта заўсёды натуральны, жывы, не законсерваваны падарунак для іх любімых і блізкіх жанчын.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

ПОЧТА

# МЫ ХОТИМ СПОКОЙНО СПАТЬ

*Пишут вам жильцы дома №3 по ул. Я. Купалы, где находится магазин "Спутник". С недавних пор там круглосуточно работает вино-водочный отдел. И вот именно он создает нам множество проблем и неудобств. В вечернее и ночное время в подъезде собираются пьяницы, которые там не только пьют, но и гадят. При этом эта публика устраивает драки, сквернословит, бьёт окна. Случается, что стучат или звонят в квартиры, угрожают, когда им делаешь замечание. По этой причине мы боимся выходить из квартир, как только стемнеет, а тем более, ночью. За последние два года в доме в 1 и 3 подъездах обнаружено три трупа. Мы неоднократно обращались за помощью в милицию, санэпидемстанцию, ЖЭС, горисполком. Но никто нам существенной помощи не оказал. А ведь действует "Типовой договор", утвержденный Советом Министров РБ от 08.09.1999 года №1399, согласно которому жильцы должны соблюдать чистоту и тишину с 23 до 7 часов, но круглосуточная торговля алкоголем перечеркивает это постановление правительства...*


На площадке после ночи

*Инициатива открытия круглосуточных магазинов, которые в ночное время в основном торгуют алкоголем, принадлежит, оказывается, местным властям. Мы выполняем условия договора, регулярно платим за техобслуживание, за капремонт, соблюдаем чистоту и тишину. Если власти решили пополнить свой бюджет таким образом, тогда пусть создадут нам нормальные условия для жизни. А поскольку магазин сейчас находится на балансе винзавода и открыт по инициативе горисполкома, то им и следует позаботиться о проблемах людей. Мы понимаем и не требуем, чтобы магазин перевели на прежний режим работы, однако, винзавод в состоянии помочь жильцам дома вставить двери с кодовыми замками или оплачивать за ежедневную уборку техработнице.*

**Жильцы дома №3 по ул. Я. Купалы**

ПРАКУРАТУРА ПАВЕДАМЛЯЕ

## ЗЛАЧЫНСТВАЎ ПАМЕНШАЛА

**Па Слоніму і раёну ў 2001 годзе было зарэгістравана 538 злачынстваў. Гэта на 176 злачынстваў менш, чым у двухтысячным.**

Пры гэтым па гораду і Слонімскаму раёну паасобку гэтыя лічбы выглядаюць суадносна 353 (на 158 меней за 2000 год) і 185 (- 18) злачынстваў за мінулы год.

## КОЖНАЕ СЁМАЕ ЗЛАЧЫНСТВА НЕРАСКРЫТА

**З 538-мі злачынстваў, што зарэгістраваны ў мінулым годзе на Слонімшчыне, семдзесят восем засталіся нераскрытымі.**

Гэта прыкладна 14,5% ад усіх злачынстваў, альбо — кожнае сёмае. Па Слоніму нераскрытых злачынстваў засталося 46, а па раёну — трыццаць два.

## ЁСЦЬ ПРАЦА ДЛЯ СУДДЗЯЎ

**У Слонімскі суд за 2001 год было накіравана 311 крымінальных спраў. Гэта агульная лічба па ўсіх органах дазнання.**

З іх 24 справы паступілі з пракуратуры. Больш за ўсё крымінальных спраў у суд накіравала міліцыя — сто шэсцьдзесят дзве.

## ГРАМАДЗЯНЕ ПРАЦЯГВАЮЦЬ СКАРДЗІЦЦА

**Работнікамі Слонімскай міжраённай пракуратуры летась разгледжана 183 скаргі і заявы грамадзян. Адзінаццаць з іх было задаволена.**

Акрамя пісьмовых зваротаў, пракуратуру асабіста наведала 239 жыхароў Слоніма і раёна.

## АГУЛЬНЫ НАГЛЯД – СПРАВА СУР'ЁЗНАЯ

**На прадпрыемствах і ў арганізацыях Слонімшчыны ў 2001 годзе пракуратурай праведзена 90 праверак.**

Па іх выніках вынесена 58 прадстаўленняў аб парушэннях закону, сорак сем чалавек былі папярэджаны аб недапушчальнасці парушэння закону, 210 чалавек прыцягнута да дысцыплінарнай адказнасці і 223 — да матэрыяльнай.

## СВАЕ ПРАВЫ АБАРАНЯЮЦЬ УСЕ

**За мінулы год Слонімскай пракуратурай прад'яўлена 107 іскаў. З іх трыццаць восем — на карысць грамадзян, на карысць арганізацый і прадпрыемстваў — сорак пяць.**

Акрамя гэтага, трыццаць тры іскі былі прад'яўлены на пазбаўленне бацькоўскіх правоў.

## КОЖНЫ ТРЫНАЦЦАТЫ ЗЛАЧЫНЦА – НЕПАЎНАГАДОВЫ

**На 25 злачынстваў менш, чым у 2000 годзе, было ўчынена непаўнагадовымі летась. Лічба гэтая склала 45, альбо крыху болей за восем працэнтаў.**

Трэба адзначыць, што па Слоніму злачынннасць сярод непаўнагадовых зменшылася на 30 выпадкаў, а па Слонімскаму раёну павялічылася на 6 выпадкаў і склала суадносна 19 і 26 злачынстваў.

## І САМІ П'ЮЦЬ, І ПАДЛЕТКАЎ СПОЙВАЮЦЬ

**За давядзенне непаўнагадовых да стану ап'янення ў 2001 годзе да адміністратыўнай адказнасці прыцягнута 52 дарослых грамадзяніна.**

Магчыма, гэтая першая чарка гарэлкі ці віна прывядзе ў свой час сённяшніх падлеткаў у наркадыспансер.

А ў мінулым годзе на наркалагічным уліку ў Слонімскім наркадыспансеры стаяла 1 492 хворых на алкагалізм. З іх — 152 жанчыны.

**Валерый КАВАЛЕНКА**

Газета Слонімская
28 лютага — 6 сакавіка 2002г. №9 (247)

МАСТЫ

## ЛЕПШЫЯ Ў ВОБЛАСЦІ

**Мастоўская раённая цэнтралізаваная бібліятэчная сістэма, якую ўзначальвае Таццяна Валчкевіч, стала лепшай у вобласці сярод устаноў культуры.**

Пераможцам уручана грамата ўпраўлення культуры аблвыканкама і каштоўны падарунак. Бібліятэкі Мастоўшчыны ўжо каторы год удзельнічаюць у разнастайных конкурсах. У мінулым годзе ў адной з намінацый бібліятэчная сістэма раёна мела трэцяе месца.

## ДОКТАР ЗБІРАЕЦЦА ГАЛАДАЦЬ

**Затрымка заработнай платы ў мастоўскіх медыкаў складае амаль два месяцы.**

Каб засяродзіць увагу грамадскасці на гэтай праблеме, галоўны ўрач Луненскай участковай бальніцы Г. вырашыла распачаць галадоўку. Акцыя не адбылася, паколькі доктар мае пэўныя хваробы, і з перасцярогі за стан яе здароўя калегам па працы і сябрам давялося пераканаць яе на пэўны час устрымацца ад галадоўкі.

**Антон МАКЕЙ**

ЗЭЛЬВА

## З НАГОДЫ ДНЯ АБАРОНЦАЎ АЙЧЫНЫ

**У Зэльвенскім раённым доме культуры адбылася ўрачыстасць з нагоды Дня абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.**

Ваенкам Зэльвенскага раёна Аляксандр Семяновіч выступіў з дакладам, у якім узгадаў ваеннае мінулае Беларусі, закрануў пытанні абароны і ваеннай палітыкі нашай дзяржавы, а таксама павіншаваў усіх зэльвенцаў з гэтым святам.

Пасля ўрачыстай часткі, работнікамі РДК была прапанавана канцэртная праграма.

**Наталля ГЛУШЭНЯ**

ДЗЯТЛАВА

## ЛЯЧЫЦЦА ДЗЯТЛАЎЧАНЕ БУДУЦЬ ЗА ГРОШЫ

**Жыхары Дзятлаўскага раёна будуць плаціць грошы за некаторыя віды медыцынскіх паслуг.**

За грошы будуць праводзіць сеансы іголкарэфлексатэрапіі, падводнага душа, масажу, а таксама выдзяляцца санітарны транспарт для дастаўкі хворага дадому пасля яго выпіскі, ці з дому на стацыянар, ці на прыём у паліклініку і іншыя паслугі.

## НЕ ХАДЗІЦЕ, ХЛОПЦЫ, ВЕЧАРАМ ГУЛЯЦЬ

**У пасёлку Наваельня Дзятлаўскага раёна каля бара "Ятранка" невядомыя асобы вечарам збілі жыхара Магілёва.**

Пасля гэтага хуліганы забралі ў яго 40 даляраў, дзве аўтамагнітолы і зніклі. Міліцыя шукае злодзеяў.

## ПАДПАЛІЎ ДАМЕ КАЛГОТКІ

**Жыхар вёскі Ведравічы Дзятлаўскага раёна быў п'яны і запальнічкай падпаліў калготкі сваёй сужыцельніцы.**

Жанчына атрымала апёкі ног і рук.

## ДАЛІ ПРЫТУЛАК І АБАКРАЛІ

**Прыватная прадпрымальніца з Дзятлава дамовілася са сваёй знаёмай, што будзе пакідаць у яе доме рэчы, якімі гандлюе на рынку.**

Тая дала згоду і нават дапамагала насіць сумкі на рынак. І вось нядаўна прадпрымальніца прыйшла, каб забраць свае рэчы, але заўважыла, што многія з іх зніклі. Міліцыя хутка выявіла, што рэчы ўкрала не сама гаспадыня, а яе знаёмая, якая была ў гасцях.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

ШЧУЧЫН

## КАЛГАСЫ НЕ ПЛОЦЯЦЬ ЗА ЭЛЕКТРАЭНЕРГІЮ

**Летась неплацяжы за выкарыстаную ў Шчучынскім раёне электраэнергію склалі 61,6% ці 6 мільярдаў рублёў.**

Пра гэта паведаміў намеснік начальніка раённых электрасетак па эканоміцы і энергазбыце Я. Жвірбля. Злоснымі неплацельшчыкамі з'яўляюцца калгасы і саўгасы, што аплацілі толькі дзесятую частку ад неабходнага.

Найбольшая запазычанасць у гаспадарак з магутнымі свінагадоўчымі комплексамі: саўгас-камбінат "Васілішкі" вінны за электраэнергію 676 мільёнаў рублёў, у два разы большы доўг мае калгас "Жалудоцкі". Не без даўгоў і адносна трывалыя гаспадаркі: эксперыментальная база "Шчучын" — 350 млн., калгас імя Леніна — 297 млн., калгас "1 Мая" — 231 млн. рублёў. Спраўна плоцяць за спажытую электраэнергію прыватныя асобы — 98,6% і прамысловыя прадпрыемствы — 93,9%.

**Васіль БЯЗМЕН**

МАСТЫ

## ПРАЦЭС СКАРАЧЭННЯ ПАЙШОЎ



Фота IREX/ProMedia

**Паколькі ў сувязі з рэарганізацыяй у сістэме Мастоўскага райспажыўтаварыства былі зліквідаваны Луненскае і Курылавіцкае сельпо, то ўзнікла пытанне працаўладкавання служачых, якія пазбавіліся пасадаў.**

Прамых скарачэнняў не было. Людзям была прапанавана праца ў іншых месцах, але паколькі рэйсавыя аўтобусы ходзяць не рэгулярна, то яны вымушаны былі адмаўляцца ад новых пасадаў. Гэтым і скарысталася кіраўніцтва спажыўтаварыства.

Людзей пачалі скарачаць і пры гэтым выплочвалі толькі двухтыднёвую дапамогу.

**Антон МАКЕЙ**

## РАСПРАВЫ НАД АПАЗІЦЫЯЙ ПРАЦЯГВАЮЦЦА

**У Мастах адразу пасля мінулагодніх прэзідэнтскіх выбараў у раённым вузле электрасувязі бездастаўна, з надуманай матывацыяй "Неідэнтычы подпіс ў журнале прыёму-здачы дзяжурства", быў пераведзены на іншую пасаду сябра абласнога штаба кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Ганчарыка, старшыня абласной арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі Язэп Палубятка.**

Неўзабаве быў звонены з працы старшыня арганізацыі "Свабоднага прафсаюза" сумеснага беларуска-германскага прадпрыемства "Самана Плюс" Віктар Яраменчук. 20 лютага бягучага года загадчык аддзела культуры райвыканкама Уладзімір Свістуноў даслаў ліст дырэктару музея "Лес і чалавек" Льву Бартошу, старшыні мясцовай суполкі Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ, у якім паведаміў, што 23 сакавіка канчаецца тэрмін кантракту паміж ім і аддзелам культуры. Што такое можа адбыцца Леў Георгіевіч здагадваўся даўно, бо на працягу некалькіх апошніх гадоў музей не меў ніякай фінансавай падтрымкі ад раённага аддзела культуры на набыццё музейных экспанатаў, што менавіта яму ставіцца ў віну. Аб гэтым нават сведчыць аналіз дзейнасці дзяржаўных музеяў Гродзенскай вобласці за 2001 год.

**Віталь РАГАЦЭВІЧ**

## БОЙКА Ў РАЙВЫКАНКАМЕ

**7 лютага бягучага года намеснік старшыні Мастоўскага райвыканкама па будаўніцтву Алена Кір'янава ўчыніла бойку ў сваім кабінеце з адной супрацоўніцай гэтае ўстановы.**

Раз'юшаная начальніца накінулася на жанчыну з кулакамі. Апошняя паспешна пакінула пакой. Згодна неафіцыйных крыніц, Алена Кір'янава паніжана ў пасадзе, і на яе месца магчыма будзе назначаны начальнік упраўлення па кіраванню горадам Юрый Снітко. Гэтае пытанне будзе канчаткова вырашана пасля вяртання старшыні райвыканкама Аляксандра Кісялёва з адпачынку.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## ДАВЕДАК НЕ ДАВАЦЬ, А ЦЯЛЯТ КАЛГАСАМ ЗДАВАЦЬ

**Старшыня Мастоўскага раённага Савета дэпутатаў Георгій Каробка на нарадзе са старшынямі сельсаветаў у катэгарычнай форме прапанаваў апошнім не даваць вяскоўцам даведак аб наяўнасці ў апошніх хатняй жывёлы.**

Гэта было зроблена, каб вяскоўцы не прадавалі цялят камерсантам, а прадавалі іх калгасам. Цялят грамадзяне прадаюць калгасам неахвотна, бо, за рэдкім выключэннем, у якасці аплаты яны атрымаюць зерне толькі ў верасні бягучага года, а прадпрымальнікі плоцяць адразу і грашыма. Ды і цэны ў іх значна вышэйшыя.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

ПОШТА

## ДЗІЦЯ – ЛЮСТЭРКА ЖЫЦЦЯ БАЦЬКОЎ

*Амаль кожны раз, калі праходжу міма старой, даўно не фарбаванай хаты, што ў Зэльве, бачу каля пахіленых весніц мурзаценькую трохгадовую дзяўчынку з сумнай усмешкай на вуснах.*

*Яна заўсёды ўсміхаецца і даверліва заглядае ў твар прахожым. Што паспелі пабачыць за такое кароткае жыццё гэтыя блакітныя вочкі? Бацька і маці дзяўчынкі пазбаўлены правоў называцца бацькамі. Старэйшы брат – у турме, сястра – у інтэрнаце... Які лёс чакае гэтага маленькага чалавечка? Добра, калі душа малой не азлобіцца на ўвесь свет і яна не будзе помсціць людзям за нешчаслівае дзяцінства. За мінулы год па Зэльвенскім раёне 9 чалавек былі пазбаўлены бацькоўскіх правоў, а на ўліку ў дзіцячым пакоі міліцыі на цяперашні момант стаіць 50 непаўналетніх. Аб гэтым паведаміў намеснік начальніка Зэльвенскага РАУС Віктар Юшкевіч.*



*Абавязак бацькоў – не толькі даць жыццё дзіцяці, але і выгадаваць яго фізічна і духоўна здаровым, гарманічна развітым, што патрабуе настойлівай і крапатлівай працы. "Дзіця – гэта люстэрка духоўнага жыцця бацькоў. ... Самая каштоўная рыса добрых бацькоў, якая перадаецца дзецям без асаблівых намаганняў, – гэта душэўная дабрыня маці і бацькі, уменне рабіць добра людзям", – пісаў Сухамлінскі. Аднак, не кожны чалавек у нашым грамадстве можа сказаць, што ў яго ёсць Сям'я, той астравок, на якім адчуваеш сябе патрэбным. Моцным, абароненым ад усяго дрэннага. Менавіта тут, у сям'і, пачынаюць адрозніваць добра ад зла, вучыцца любіць і спачуваць, радавацца першым поспехам і стойка прымаць першыя выпрабаванні. Калі дзіця выхоўваецца ў спакойнай і добразычлівай атмасферы, то, хутчэй за ўсё, яно стане чалавекам, у душы якога агульначалавечыя каштоўнасці будуць адыгрываць найважнейшую ролю. Тыя зярняткі, якія кінуць у дзіцячую душу бацькі, дадуць адпаведны ўраджай. На вялікі жаль, ёсць яшчэ ў нашым свеце дзеці з нешчаслівых сем'яў...*

*Што могуць даць свайму дзіцяці бацькі, якія думаюць толькі аб тым, дзе і ў каго што-небудзь украсці, каб "загнаць" і купіць бутэльку гарэлкі? Што адбываецца ў душы маленькага чалавечка, калі тата з мамаю пасля чарговага застолля пачынаюць сварыцца і біцца, штосьці не падзяліўшы? Што возьме дзіцятка ад маці, якая замест таго, каб пачытаць казку, пачынае кідаць нецэнзурныя словы? Менавіта праз светаўспрыманне мамы, самага блізкага чалавека, маленькае дзіця пачынае знаёміцца са светам, у які яно прыйшло не дзеля таго, каб знікнуць невядомай пясчынкай. Сапраўды, чалавек пакідае сябе найперш у чалавеку.*

*Старажытная мудрасць сцвярджае: "Дзіця ад нараджэння – чыстая дошка". Вельмі хочацца, каб на гэтай дошцы людзі пакідалі толькі светлыя і ясныя фарбы. Магчыма тады ў нашым грамадстве будзе менш зла, насілля, нянавісці і раўнадушша.*

**Наталля ГЛУШЭНЯ**

## НАЧАЛЬНИК СВЯЗИ

*Давно хотелось рассказать со страниц "ГС" об одном удивительном человеке. Но делаю это только сейчас, так как большое видится на расстоянии.*

*За годы жизни на Слонимщине мне доводилось общаться со многими умными людьми. Одни из них были моими коллегами, соседями или просто знакомыми. Другие стали приятелями или друзьями. В деревне Шишки Слонимского района живёт замечательная женщина Мелецкая Зинаида Александровна, которая работает начальником Сеньковщинского отделения связи.*

*Часто я бывала на почте и получала помощь и поддержку от Зинаиды Александровны. Из нашего отделения связи можно было отправить корреспонденцию в любой уголок мира, и она всегда доходила до адресата.*

*Зинаида Мелецкая всегда находила время, чтобы поговорить по душам. И не только со мной. На почте всегда было многолюдно.*

*И сейчас, живя вдали от Сеньковщины, я иногда обращаюсь к Зинаиде Александровне за помощью. И она не отказывает.*

*Хочу пожелать этой милой и доброй женщине здоровья, плодотворной работы и всех земных благ. Слава Богу, что ещё не перевелись на земле честные, порядочные и отзывчивые люди!*

**Лилия ПРУДНИКОВА, г. Барановичи**

## КАБ НЕ ЗНІКЛА ЖАДАННЕ ВУЧЫЦЦА

*19 лютага кіраўнікі школьных метадычных аб'яднанняў настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры правялі ў СШ № 3 пасяджэнне на тэму "Асобасны і матывацыйна-мэтавы падыходы да навучання па ўмовах працы па новых тэхналогіях".*

*Намеснік дырэктара СШ № 3 Тамара Шарлай пазнаёміла прысутных з працай школы па Дальтон-сістэме. Гэта амерыканская тэхналогія навучання.*

*Затым прысутныя запрасілі на Дальтон-урокі па беларускай мове ў 7-ых класах, якія давалі настаўнікі Лукашэвіч Алена Васільеўна і Джылілава Наталля Аляксандраўна. Урокі былі незвычайныя тым, што на іх ішла самастойная праца вучняў па Дальтон-заданнях, аднолькавых для ўсіх школьнікаў, але з двума ўзроўнямі цяжкасцей – дзеці выбіралі іх самастойна.*

*Дальтон-сістэма – гэта тэхналогія, якая ўключае ў сябе самастойнае заданне вучню па пэўнай адукацыйнай тэме. Напрыклад, прыступаючы да вывучэння тэмы "Прыслоўе", настаўнік планує ўсе заданні для вучняў: знаёмства з паняццямі, з ведамі, з тым, чаму вучні павінны навучыцца і што засвоіць.*

*Напрыканцы пасяджэння старшыня Слонімскай суполкі ТБМ раздала прысутным звароты маладзёжнага аб'яднання "Вятрак", каб шанавалі нашу родную беларускую мову, а таксама паведаміла прысутным аб намерах Рэспубліканскай Рады ТБМ стварыць у Слоніме беларускую гімназію.*

**Таццяна ТРАФІМЧЫК, кіраўнік Слонімскага гарадскога МА настаўнікаў беларускай мовы**

ЭКАНОМІКА

## ПАЧАЛІ РАЗЛІЧВАЦЦА З ЛЮДЗЬМІ

**Па стану на 31 студзеня 2002 года запазычанасць па зарплаце ў цэлым па Беларусі склала 33 мільярды рублёў.**

Па дадзеных міністэрства працы, за два тыдні лютага назіраецца скарачэнне даўгоў.

Гродзенская вобласць завінавяціла працоўным два мільярды шэсцьсот мільёнаў рублёў. А яшчэ напачатку лютага гэтая сума складала 4,4 мільярды. На Міншчыне запазычанасць па зарплаце з 3,7 мільярдаў знізілася да 1,7 мільярдаў рублёў, на Брэстчыне – з 5,1 да 3,4 мільярдаў, на Віцебшчыне – з 3,5 да 2,4 мільярдаў, на Гомельшчыне – з 8 да 3,1 мільярдаў, на Магілёўшчыне – з 5,5 да 2,2 мільярдаў.

Такім чынам, на сённяшні дзень працуючыя беларусы не атрымалі яшчэ 15 мільярдаў чатырыста мільёнаў зробленых імі рублёў.

**Валерый КАВАЛЕНКА**

## БЕЛОРУССКАЯ ПРИВАТИЗАЦИЯ

**Как сообщили БелаПАН в Министерстве экономики, наибольшее количество объектов реформировано в Гродненской области — 455.**

К настоящему времени в Беларуси реформировано 4118 объектов коммунальной собственности с численностью работающих 211,1 тыс. человек. При этом приоритет среди отраслей имеет торговля — в этой сфере приватизировано 1058 объектов (41 процент от общего количества приватизированных), по предприятиям АПК — 479 объектов (18 процентов), по бытовому обслуживанию — 371 объект (14 процентов), по общественному питанию — 239 объектов (9 процентов).

**Ирина САЗАНОВИЧ**

## ЗА КОЖНАГА ЛІШНЯГА КАТА – ШТРАФ



*"Купіў" коцік рыбку*

**Як паведаміла тэлекампанія "СКІФ" (Барысаў), у Беларусі рыхтуецца законапраект па рэгістрацыі катоў.**

Кожны гаспадар, які мае ката, мусіць зарэгістраваць свайго гадаванца ў адпаведных органах і заплаціць падатак за гэта. Катам, якія прайшлі праз гэтую працэдуру, выдаецца ашыйнік з асабістым нумарам. Пасля заканчэння рэгістрацыі хатніх жывёлаў па горадзе будзе ездзіць спецыяльная служба па адстрэлу і забіваць катоў без ашыйнікаў. Акрамя таго, калі чалавек мае больш за аднаго ката, дык за кожнага лішняга пушыстага сябра яму прыйдзецца заплаціць штраф. Праўда, памеры плануемых падаткаў і штрафаў за катоў пакуль невядомыя. У заходніх краінах гэтае пытанне вырашаецца па-іншаму. Там існуе сістэма адлову і размяшчэння бяздомных жывёлаў у прытулках. Фінансуецца гэта за кошт дзяржавы.

**Алег СКАТАРЭНКА**

## ЦЕНЫ ВЫРОСЛИ НА 2,5 ПРОЦЕНТА

**По данным Министерства статистики и анализа Беларуси, за первые две недели февраля потребительские цены в стране выросли на 2,5 процента (за первую неделю — на 1,6, за вторую — на 0,9).**

Для сравнения: за первые две недели января цены увеличились на 3,5 процента, за первые две недели февраля 2001 года – на 2 процента.

С начала нынешнего года потребительские цены в Беларуси выросли на 8,8 процента (за аналогичный период прошлого года – на 6,9 процента). В 2002 году правительство и Национальный банк прогнозируют повышение цен на 20—27 процентов.

**БелаПАН**

КУЛЬТУРА

## 2002 ГОД – ГОД ТАРАСА ШЕВЧЕНКО В БЕЛАРУСИ

**Правительство Беларуси поддержало инициативу посольства Украины в Республике Беларусь и Белорусского Союза украинских общественных объединений об объявлении 2002 года "Годом Тараса Шевченко в Беларуси".**

Как сообщил пресс-секретарь МИД Беларуси Павел Латушко, украинская сторона предполагает открыть в Минске памятник великому поэту и скважину артезианской воды – "Шевченковский источник", а в Бресте установить бюст Т. Шевченко.

В течение года запланированы литературные чтения, художественные выставки, научно-практические конференции, проведение фестиваля украинского кино, выступления украинских художественных коллективов и другие мероприятия.

В марте 2002 года планируется провести VI Республиканский фестиваль искусств украинцев Беларуси и приурочить его к годовщине рождения Т.Шевченко. В свою очередь, в этом году на Украине будут отмечаться юбилеи Янки Купалы и Якуба Коласа, а в Ялте планируется открыть памятник Максиму Богдановичу.

**БелаПАН**

ОБЩЕСТВО

# БЕЛОРУССКИЕ МУСУЛЬМАНЕ ОТМЕТИЛИ КУРБАН-БАЙРАМ

**22 февраля белорусские мусульмане отметили праздник жертвоприношения Курбан-Байрам.**



*В одной из семи мечетей Беларуси*

В своем обращении к верующим муфтий мусульман Беларуси Исмаил Александрович сообщил, что праздник длится 3—4 дня и совпадает с завершением хаджа — паломничества в святые для мусульман места — Мекку и Медину. Традиция этого праздника восходит к известной ветхозаветной истории о готовности Ибрагима (Авраама) принести своего сына в жертву Богу.

За то, что Ибрагим выдержал это испытание, Всевышний благословил его, обещал умножить племя Авраама — сделать его многочисленным, как звезды на небе и песок на берегу моря.

В дни праздника верующие приносят в жертву животных в память о готовности Ибрагима пожертвовать своим сыном. Согласно данным переписи 1999 года, в Беларуси проживает около 30 тысяч татар, азербайджанцев, башкир, узбеков, туркменов и представителей других национальностей (всего — 27), которые традиционно исповедуют ислам. Они объединены в 27 мусульманских общин. В стране действуют 7 мечетей — в Ивье, Новогрудке, Слониме, Смиловичах, Видзах, Клецке и Ловчицах.

**БелаПАН**

ЧРЕЗВЫЧАЙНЫЕ СИТУАЦИИ

# ОРГАНИЗАЦИИ ОБЯЗАНЫ СОЗДАТЬ СВОИ АВАРИЙНО-СПАСАТЕЛЬНЫЕ СЛУЖБЫ

**Совет Министров утвердил перечень организаций, которые обязаны создать аварийно-спасательные службы.**



*Эвакуация*

В перечень включены организации министерств архитектуры и строительства, внутренних дел, информации, культуры, обороны, промышленности, энергетики, сельского хозяйства и продовольствия, а также Государственного комитета по авиации и Комитета лесного хозяйства при Совете Министров.

Среди них — исправительно-трудовые учреждения, военные аэродромы и аэропорты гражданской авиации, Национальная гостелерадиокомпания, Белорусский государственный музей народной архитектуры и быта, Национальный академический Большой театр оперы и балета, объекты с наличием взрывчатых веществ и материалов, легко воспламеняющихся и горючих жидкостей.

Комментируя БелаПАН это постановление, начальник управления предупреждения чрезвычайных ситуаций Министерства по чрезвычайным ситуациям Геннадий Новиков сообщил, что на всех опасных производственных объектах страны существуют пожарные подразделения МЧС. "В связи с тем, что по указу президента на органы и подразделения МЧС возложены аварийно-спасательные функции, все пожарные подразделения Беларуси приобретают статус аварийно-спасательных служб", — пояснил Новиков.

**БелаПАН**

ЗАКОННАСЦЬ

# КАНСТЫТУЦЫЙНЫ СУД ПРААНАЛІЗАВАЎ СКАРГІ ГРАМАДЗЯН

**У традыцыйным пасланні Прэзідэнту Беларусі і Парламенту рэспублікі старшыня Канстытуцыйнага Суда Р. А. Васілевіч адзначыў, што важным крытэрыем ацэнкі стану канстытуцыйнай законнасці з'яўляецца аналіз зваротаў грамадзян.**

А ў мінулым годзе ў Канстытуцыйны суд паступіла больш за 1500 пісьмовых зваротаў: каля 1300 індывідуальных і больш за 200 ад розных грамадскіх аб'яднанняў. Звароты змяшчаюць звыш 3,5 тысячы подпісаў.

Найбольшая колькасць скаргаў грамадзян датычылася выканання банкамі сваіх абавязацельстваў па дагаворах банкаўскіх укладаў, кампенсацыйных выплат, парушэння правоў і законных інтарэсаў у галіне жыллёвых, працоўных, зямельных, крэдытных, падаткавых, страхавых, адміністрацыйных і некаторых іншых праваадносінаў.

Прыкладна ў дваццаці працэнтах заяў (300 зваротаў) ставілася пытанне аб абгрунтаванасці ўнясення ў пашпарт грамадзяніна Беларусі асабістага нумара. Каля 200 зваротаў (каля 15%) змяшчалі скаргі на прыгаворы і рашэнні судоў, дзеянні органаў унутраных спраў, падатковых і мытных органаў. У значнай частцы зваротаў грамадзян закранулася праблема роўнасці іх перад законам.

Старшыня Канстытуцыйнага Суда лічыць, што змест зваротаў сведчыць аб узрастаючым узроўні правасвядомасці грамадзян, аб іх імкненні садзейнічаць удасканальванню нацыянальнага заканадаўства і ўмацаванню канстытуцыйнасці. Але, мабыць, не ўсё добра ў мясцовых уладавых колах, калі такая колькасць грамадзян вымушана звяртацца па дапамогу ў вышэйшую судовую ўстанову краіны.

**Валерый КАВАЛЕНКА**

